№ 11 (35)
Чэрвень 1999

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна–96" | Сьпецыяльны выпуск




Фота IREX/ProMedia

# Парушэньні правоў чалавека пад час арганізацыі і правядзеньня выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 16 траўня 1999 г.

## *Даклад, падрыхтаваны Праваабарончым Цэнтрам "Вясна-96"*

Аналіз ходу прэзідэнцкай кампаніі па выбарах прэзідэнта Беларусі, якія былі прызначаныя Вярхоўным Саветам 13-га скліканьня на 16 траўня 1999 г., паказвае, што ўлады выкарыстоўвалі рэпрэсіі, каб сарваць выбары.

Па справе старшыні Цэнтрвыбаркаму В.Ганчара, які абвінавачваецца ў «самавольным прысваеньні званьня альбо ўлады службовай асобы» (Крымінальны Кодэкс РБ, арт.190) былі апытаныя 2.300 чалавек — сябры выбарчых камісіяў і актывісты выбарчай кампаніі.

10 студзеня 1999 г. Вярхоўны Савет 13-га скліканьня абвясьціў дату прэзідэнцкіх выбараў, якія павінны былі адбыцца 16 мая 1999 г. За гэтае рашэньне прагаласавалі 44 дэпутаты, якія сабраліся на сваё пасяджэньне ў мінскім гатэлі «Турыст». Пракуратура Беларусі ў сваю чаргу выступіла з заявай, у якой сказана, што дзейнасьць па арганізацыі датэрміновых выбараў прэзідэнта рэспублікі не адпавядае Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і дзеючаму заканадаўству. «Такія дзеяньні могуць расцэньвацца не інакш як спроба захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам, намер дэстабілізаваць сітуацыю ў грамадзтве, справакаваць масавыя беспарадкі», — гаворыцца ў заяве. Аўтары заявы папярэджваюць, што «арганізацыя і ўдзел у такіх супрацьпраўных дзеяньнях пацягне за сабой як крымінальную, так і адміністратыўную адказнасьць» і заклікаюць грамадзянаў рэспублікі «не паддавацца на правакацыйныя звароты арганізатараў такіх мерапрыемстваў, устрымацца ад удзелу ў іх правядзеньні». Афіцыйныя СМІ, цалкам падпарадкаваныя Аляксандру Лукашэнку, пра рашэньне Вярхоўнага Савету ці зусім не паведамілі, ці пазьдзекаваліся з яго ў сваіх каментарах. У лютым 1999 году сакратар Цэнтральнай Выбарчай Камісіі Барыс Гюнтэр казаў: «У гэтым годзе наступае канец уладзе прэзідэнта. Таму дэпутаты Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня выканалі свой дзяржаўны абавязак, прызначыўшы дату выбараў на 16 траўня, а таксама абралі і зацьвердзілі Цэнтральную Выбарчую Камісію. І калі ўлады ня будуць нам перашкаджаць, мы правядзем гэтыя выбары згодна з законамі і Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Правядзем выбары ў сувязі з тым, што ў нашага прэзідэнта скончыўся пяцігадовы тэрмін існаваньня, і ён павінен быць перавыбраны ў 1999 годзе. А тое, што ён сабе працягнуў тэрмін паўнамоцтваў рэферэндумам 1996 году, то рашэньні гэтага рэферэндуму ўсёй міжнароднай супольнасьцю былі прынятыя як «рэкамендацыйныя», яны павінны былі яшчэ дапрацоўвацца Вярхоўным Саветам 13-га скліканьня. А рашэньні рэферэндуму, прымусова ўведзеныя прэзідэнтам у якасьці заканадаўчых актаў, ня маюць ніякай законнасьці». Артыкул 81 Канстытуцыі

*(Працяг на стар. 2-3)*

# Парушэньні правоў чалавека пад час арганізацыі і правядзеньня выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 16 траўня 1999 г.

*(Пачатак на стар. 1)*

Рэспублікі Беларусь і артыкул 1 Закону аб выбарах прэзідэнта РБ недвухсэнсоўна гаворыць: "Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь выбіраецца тэрмінам на пяць гадоў".

Падчас выбараў ад дзеяньняў уладаў тым ці іншым чынам пацярпела некалькі тысячаў чалавек. Больш за 100 сяброў выбарчых камісіяў былі затрыманыя, каля 20 чалавек атрымалі адміністратыўныя арышты.

Рэпрэсіі ў асноўным тычыліся арганізатараў выбараў.

## 1. Перасьлед кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Міхаіла Чыгіра

30 сакавіка 15 невядомых у цывільным спрабавалі ўварвацца ў перадвыбарчы штаб Міхаіла Чыгіра. У офіс кандыдата ў прэзідэнты РБ яны зьявіліся быццам бы для таго, каб уручыць Чыгіру позву ў міліцыю. Па словах сьведкаў, гэтыя людзі прыехалі на некалькіх машынах і некаторы час вялі назіраньне за штаб-кватэрай. Пасьля таго, як у офісе зьявіўся М.Чыгір, у дзьверы пазванілі і запатрабавалі адчыніць іх. На патрабаваньне супрацоўнікаў прад'явіць службовыя пасьведчаньні, паступіла адмова. Пры гэтым невядомымі адразу ж была абарваная тэлефонная сувязь у офісе. Тым ня менш актывістам перадвыбарчай кампаніі ўдалося з мабільных тэлефонаў дазваніцца да журналістаў, пры зьяўленьні якіх «цывільныя» зьніклі. У хуткім часе сп. Чыгір са сваімі бліжэйшымі супрацоўнікамі пакінуў штаб-кватэру. Але ўжо ў 13.00 Чыгір і ягоны памочнік палкоўнік Уладзімір Барадач былі затрыманыя ў мікрараёне Уручча і дастаўленыя ў сьледчае ўпраўленьне Рэспублікі Беларусь. У 17.00 М.Чыгір даваў паказаньні па справе, узбуджанай пракуратурай па выдачы «Аграпрамбанкам», якім ён кіраваў, крэдытаў у пачатку 90-х гадоў. Каля 19.00 быў вызвалены са сьледчага ўпраўленьня У. Барадач, а М.Чыгір быў перавезены ў ізалятар часовага ўтрыманьня ГУУС Мінгарвыканкаму. Першапачаткова ён быў затрыманы на 3 сутак згодна з арт. 119 Крымінальна-Працэсуальнага Кодэксу (затрыманьне падазраваемага ў зьдзяйсьненьні злачынства) для дачы паказаньняў па справе, узбуджанай па арт. 91 (крадзёж у асабліва буйных памерах). Пасьля гэты тэрмін быў працягнуты да 10 сутак. 8 красавіка скончыліся 10 сутак з дня затрыманьня былога прэм'ер-міністра Беларусі, кандыдата ў прэзідэнты РБ Міхаіла Чыгіра. Далейшае ўтрыманьне пад вартай было б незаконным. Але зранку 8 красавіка сьледчы камітэт МУС прад'явіў афіцыйнае абвінавачваньне М.Чыгіру. Яму інкрымінуюць парушэньне арт. 91, ч.4 (крадзёж у асабліва буйных памерах) і 166 (злоўжываньне ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі). У якасьці «крадзяжу» фігуруе 1 млн. даляраў ЗША, які быў пералічаны на разьліковы рахунак канадзкай будаўнічай фірмы ў якасьці авансу за будаўніцтва офіснага будынку «Белаграпрамбанку».

Такім чынам уладамі быў парушаны артыкул 23 Закону аб выбарах прэзідэнта РБ, у якім гаворыцца: "Кандыдат у прэзідэнты ня можа быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасьці, падвергнуты арышту, затрыманьню альбо мерам адміністратыўнага спагнаньня, якія накладаюцца ў судовым парадку, бяз згоды Цэнтральнай Камісіі па выбарах Прэзідэнта РБ".

7 красавіка жонка кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Міхаіла Чыгіра, які знаходзіцца пад арыштам, накіравала Генеральнаму пракурору РБ Алегу Бажэлку заяву. У ёй Юлія Чыгір абвяргае інфармацыю, якая распаўсюджвалася ў афіцыйных СМІ, пра тое, што яе муж мае дачыненьне да крадзяжу 1 млн.даляраў ЗША, які быў пераведзены на рахунак канадзкай фірмы. 8 красавіка адбылося пасяджэньне суда Цэнтральнага раёну г.Мінска. Намесьнік старшыні суда Павел Каршуновіч разглядзеў скаргу Міхаіла Чыгіра аб зьмяненьні меры стрыманьня і прыняў рашэньне аб тым, што яна застаецца ранейшай. У якасьці абаронцы на працэсе выступала жонка М.Чыгіра Юлія Чыгір (юрыст па адукацыі). Скарга была пададзеная на падставе таго, што мера стрыманьня ў выглядзе ўтрыманьня пад вартай практыкуецца ў выпадках затрыманьня небясьпечных злачынцаў, якія сваімі дзеяньнямі ставяць пад пагрозу жыцьцё і здароўе асобы. Суд адхіліў хадайніцтва аб зьмяненьні меры стрыманьня, а пракуратура дала санкцыю на ўтрыманьне М.Чыгіра пад вартай яшчэ на 3 месяцы. Такім чынам, прэзідэнцкія выбары (16 траўня) кандыдат у прэзідэнты сустрэў за кратамі.

У ноч з 25 на 26 красавіка невядомымі асобамі ў масках быў абрабаваны перадвыбарчы штаб кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра.

У красавіку намесьнікам пракурора г.Гомеля Валерыем Фурсам была ўзбуджаная крымінальная справа па арт. 188. 2 КК РБ (узьдзеяньне на супрацоўніка міліцыі з мэтай перашкодзіць выкананьню ім службовых абавязкаў» у адносінах да былога міністра ўнутраных справаў Беларусі Юрыя Захаранкі, які зьяўляўся каардынатарам па Гомельскай вобласьці ў штабе кандыдата ў прэзідэнты РБ М.Чыгіра. Крымінальны артыкул, па якім узбуджаная справа, прадугледжвае папраўчыя работы тэрмінам да аднаго году альбо штраф. Быў абвешчаны рэспубліканскі росшук. Захаранка пра ўзбуджэньне крымінальнай справы ня ведаў, і ў пракуратуру яго не выклікалі.

8 мая з заявай аб зьнікненьні эксміністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі зьвярнулася ў міліцыю ягоная жонка Вольга Барысаўна. Вольга Захаранка паведаміла, што патэлефанавала мужу па сотавым тэлефоне, і Ю. Захаранка адказаў ёй, што толькі што паставіў машыну на стаянку і ідзе дадому. «Праз 10 хвілінаў буду», — сказаў Юры Захаранка. Шлях ад стаянкі да дому займае 10—15 хвілінаў. Па дарозе Ю.Захаранка зьнік. Вольга Захаранка не выключае, што магло здарыцца самае страшнае: «З ім могуць зрабіць што заўгодна, а пасьля сьпісаць усё на здарэньне на бытавой глебе. Жонка былога міністра сьцьвярджае, што ў апошні час Ю. Захаранка атрымліваў шматлікія пагрозы і папярэджаньні, якія паступалі ў сувязі з ягонай дапамогай кандыдату ў прэзідэнты М.Чыгіру і дзейнасьцю па стварэньні Саюзу афіцэраў. «... Было бачна, як гэта непакоіць улады. Нас увесь час падслухоўвалі, дасылалі пагрозы». Юры Захаранка быў прызначаны міністрам унутраных справаў у 1994 годзе, але праз паўтары гады зьняты. Ёсьць меркаваньне, што прычынай адстаўкі стала адмова Захаранкі выконваць тую ролю ў барацьбе з апазіцыяй, якую патрабавалі ад яго афіцыйныя ўлады.

## 2. Перасьлед Цэнтральнай Выбарчай Камісіі па выбарах прэзідэнта РБ

Старшыня камісіі па выбарах прэзідэнта Беларусі В. Ганчар у лютым 1999 году быў выкліканы ў КДБ, дзе яму было вынесенае папярэджаньне аб «супрацьпраўнай дзейнасьці». Так КДБ Беларусі папярэдзіў старшыню Цэнтральнай Выбарчай Камісіі па выбарах прэзідэнта РБ Віктара Ганчара. У папярэджаньні гаворыцца: «Дзейнасьць Ганчара і сяброў Цэнтральнай Выбарчай Камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якую ён узначальвае, супярэчыць дзейснаму заканадаўству, правакуе дэстабілізацыю грамадзка-палітычнага становішча ў рэспубліцы і можа прывесьці да зьдзяйсьненьня злачынства, прадугледжанага часткай 1 арт. 611 («змова з мэтай захопу дзяржаўнай улады») КК РБ. У сувязі з гэтым Ганчару В.І. вынесенае афіцыйнае папярэджаньне і патлумачана, што падобная дзейнасьць можа прывесьці да злачынства і пацягнуць за сабою крымінальную адказнасьць».

Першыя затрыманьні сяброў Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта адбыліся падчас спробы іх прыезду ў Мінск на пасяджэньне камісіі. Так, з аўтобуса Віцебск-Мінск быў зьняты Іосіф Навумчык і дастаўлены ў РАУС на допыт па справе, узбуджанай супраць В.Ганчара.

11 лютага ў Гомелі адразу пасля заканчэньня рабочай сустрэчы старшыні ЦВК (Цэнтральнай Выбарчай Камісіі) Віктара Ганчара з прадстаўнікамі мясцовых тэрытарыяльных камісіяў па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь былі затрыманыя міліцыяй удзельнікі сустрэчы Уладзімір Шыцікаў і Аляксандр Заранок. Затрыманьне праводзіла вялікая група міліцыянераў пад кіраўніцтвам намесьніка начальніка абласной міліцыі Салаўёва. Фармальнай падставай для затрыманьня сябра Беларускага Народнага Фронту У. Шыцікава і сябра Беларускай сялянскай партыі А. Заранка было тое, што яны несьлі ў ру-

ках стосы плакатаў-аб'яваў аб маючых адбыцца 16 траўня чарговых прэзідэнцкіх выбарах. У пастарунку ў затрыманых адабралі 760 плакатаў. Пасьля складаньня пратаколу іх адпусьцілі. Праз некалькі дзён да трох сутак адміністратыўнага арышту асуджаны судом Цэнтральнага раёну Гомеля калінкавічанін А. Заранок (60-гадовы сябра Сялянскай партыі). У судзе ў якасьці сьведкаў выступілі два міліцыянты. Аляксандра Заранка адвезьлі адбываць тэрмін у гомельскі ізалятар часовага ўтрыманьня. 20 лютага А. Заранок быў вызвалены. А. Заранок назваў умовы ў ізалятары часовага ўтрыманьня «скоцкімі».

22 лютага ў Гомелі тры чалавекі былі асуджаныя да адміністратыўнага арышту. У гэты дзень судзьдзя Цэнтральнага райсуда горада разгледзела дзьве адміністратыўныя справы. Па першай праходзіў сябра БНФ У. Шыцікаў, які 11 лютага быў затрыманы пасьля рабочай сустрэчы з Віктарам Ганчаром са стосам плакатаў-аб'яваў пра выбары прэзідэнта. Прысуд — трое сутак адміністратыўнага арышту. Па другой справе праходзілі два маладыя чалавекі, актывісты Свабоднага прафсаюзу вучнёўскай моладзі Руслан Бяланаў і Павел Клімовіч, якія вечарам 19 лютага ішлі па вуліцы Савецкай са сьцягамі Свабоднага прафсаюзу ў руках. Каля Цэнтральнага ўнівермага яны былі затрыманыя патрулём міліцыі. Прысуд — трое сутак адміністратыўнага арышту.

## 3. Арышт сяброў камісіі ў кавярні Дому афіцэраў

25 лютага ў Мінску была затрыманая Цэнтральная Выбарчая Камісія па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Затрыманьне адбылося зранку падчас пасяджэньня па зацьвярджэньні сьпісаў тэрытарыяльных камісіяў, якое праводзіў Цэнтрвыбаркам у мінскім Доме афіцэраў. Фармальная падстава затрыманьня — правядзеньне незаконнага сходу, што прадугледжвае адміністратыўную адказнасьць па арт. 167.1 КаАП РБ: адміністратыўны арышт ад 3 да 15 сутак альбо штраф. Усіх затрыманых даставілі ў гарадзкі аддзел Ленінскага раёну г.Мінска. Сярод затрыманых: старшыня ЦВК Віктар Ганчар, сакратар ЦВК Барыс Гюнтэр і ўсе сябры ЦВК. Сябры ЦВК адмовіліся даваць зьвесткі пра сябе супрацоўнікам міліцыі. У другой палове дня пачаліся суды над затрыманымі ў тым жа памяшканьні аддзяленьня міліцыі, але сябры ЦВК патрабавалі адвакатаў, таму суды перанесьлі на 1 сакавіка.

1 сакавіка адбыўся суд над сябрамі Цэнтральнай Выбарчай Камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Зранку 1 сакавіка ў суд, які адбываўся ў памяшканьні ГАМу (Гарадзкога аддзяленьня міліцыі) Ленінскага раёну зьявіўся толькі адзін сябра ЦВК сп. Генадзь Самойленка. Ён атрымаў адміністратыўнае пакараньне ў выглядзе штрафу 30 млн. рублёў (каля 100 даляраў ЗША). Старшыня Цэнтральнай Выбарчай Камісіі Віктар Ганчар быў асуджаны ў памяшканьні ГАМу на 10 сутак адміністратыўнага арышту. Гэты будынак быў ачэплены АМАПам. Амапаўцы нікога не пускалі ў залу пасяджэньняў, калі там праходзіла слуханьне справы В.Ганчара. Пасьля таго, як Віктара Ганчара павезьлі ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік, у тым жа памяшканьні пачалі судзіць яшчэ 5 сяброў Цэнтрвыбаркаму. Усім інкрымінавалі артыкул 167.1 част. 1 КаАП: парушэньне парадку правядзеньня мітынгаў, шэсьцяў, дэманстрацыяў і пікетаваньня. Судзьдзёй Валянцінай Зянькевіч былі асуджаныя: 1. Сідарэнка Валеры Іванавіч (рабочы) — штраф 20 млн. рублёў; 2. Кляновая Валянціна Вітальеўна (маці 16 дзяцей, 6 — непаўналетнія) — папярэджаньне; 3. Закурдаеў Леанід Рыгоравіч (1926 году нараджэньня, ветэран Другой сусьветнай вайны, пенсіянер-інвалід) — 20 млн. рублёў; 4. Гурыновіч Анатоль Васільевіч — 5 сутак адміністратыўнага арышту; 5. Лагун Валянціна Віктараўна (супрацоўніца Акадэміі навук) — папярэджаньне. Крыху пазьней у судзе Ленінскага раёну г.Мінска пачалі судзіць іншых сяброў Цэнтрвыбаркаму. На гэты працэс пускалі прадстаўнікоў грамадзкасьці. Пачатак працэсу быў нават зьняты расійскімі тэлекампаніямі, але потым судзьдзя Алена Царашкова папрасіла прадстаўнікоў тэлевізійных СМІ і фотакарэспандэнтаў пакінуць залу пасяджэньняў. А. Царашкова вынесла наступныя рашэньні: 1. Абадоўскі Сяргей Віктаравіч (юрысконсульт Свабоднага Прафсаюзу Беларускага) — 5 сутак адміністратыўнага арышту. Ён адмовіўся адказваць на пытаньні судзьдзі і даваць тлумачэньні ў знак пратэсту супраць незаконнага затрыманьня і прыцягненьня да адміністратыўнай адказнасьці. Пасьля вынясеньня рашэньня судзьдзі ён абвясьціў у зале суда галадоўку; 2. Навумчык Іосіф Адамавіч (г.Віцебск) — штраф 15 млн. руб.; 3. Сазанавец Лілія Вацлаваўна (г. Ліда, маці 2 непаўналетніх дзяцей) — папярэджаньне; 4. Пахабаў Мікалай Андрэевіч (рабочы з г.Барысава) — штраф 30 млн. руб.; 5. Дзілінчус Альгінас Юзэфавіч (кінарэжысёр, г. Гродна) — штраф 30 млн. руб.; 6. Коктыш Аляксандр (журналіст) — штраф 30 млн. руб.; 7. Гюнтэр Барыс Давідавіч (сакратар ЦВК) — 5 сутак адміністратыўнага арышту. Сьведкамі на працэсе выступалі супрацоўнікі АМАПу. Ніхто з прыцягнутых да адміністратыўнай адказнасьці не прызнаў сваю віну на судзе. Усе заявілі аб тым, што выконваюць рашэньне легітымнага Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня і ў сваёй дзейнасьці кіруюцца Законам аб выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 1994 г., які дзейнічае бяз зьменаў да гэтага часу, і Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь 1994 году.

Такім чынам было парушанае права на правядзеньне вольных сходаў (Арт. 21 Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах).

## 4. Арышт старшыні ЦВК Віктара Ганчара

1 сакавіка ў Мінску на вул. Кісялёва арыштавалі старшыню Цэнтральнай Выбарчай Камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, прызначаных на 16 траўня 1999 г. Віктара Ганчара гвалтам выцягнулі з уласнай машыны (пры гэтым разьбілі ў машыне шкло) і перасадзілі ў «Волгу» чорнага колеру, на якой ён быў дастаўлены ў ГАМ Ленінскага раёну г.Мінска. В. Ганчар быў асуджаны на 10 сутак адміністратыўнага арышту. Быў парушаны прынцып адкрытасьці і галоснасьці разгляду адміністратыўных справаў у судзе, парушанае права на абарону. 1-га сакавіка старшыня легітымнага Цэнтрвыбаркаму В. Ганчар абвясьціў сухую галадоўку. Пра гэта паведаміў ягонай жонцы Зінаідзе Ганчар начальнік сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку, у якім В.Ганчар адбываў адміністратыўны арышт (10 сутак). В.Ганчар адмаўляўся ад ежы, вады, медыцынскай дапамогі і патрабаваў неадкладнага вызваленьня. 3-га сакавіка З. Ганчар дазволілі спатканьне з мужам, якое працягвалася некалькі хвілінаў. Старшыня ЦВК паведаміў, што цьвёрда намераны трымаць галадоўку, пакуль ня вызваляць усіх асуджаных сяброў ЦВК. Каля сьпецпрыёмніку—разьмеркавальніку ўвесь час дзяжурыла «хуткая дапамога». Апрача таго, у сьпецпрыёмніку знаходзіліся прадстаўнікі сьпецслужбаў, якія сачылі за тым, каб супрацоўнікі сьпецразьмеркавальніку не дапусьцілі ніякіх кантактаў сяброў зьняволенага Цэнтрвыбаркаму паміж сабой і грамадзкасьцю.

У ноч з 5 на 6 сакавіка дактары гвалтам прымусілі В. Ганчара спыніць галадоўку — пачалося прымусовае кармленьне. Сябра ЦВК Анатоль Гурыновіч, які знаходзіўся ў суседняй камеры, чуў, як В. Ганчар супраціўляўся дактарам. Галоўнае патрабаваньне В. Ганчара — неадкладнае вызваленьне, не было выкананае.

В. Ганчар казаў пра сухую галадоўку: «Альтэрнатывы не было, і, верагодна, гэтым тлумачыцца тое, што для мяне псіхалагічна ўсе гэтыя дзесяць дзён не суправаджаліся нейкімі асаблівымі пакутамі, і рашэньне было вельмі простым. Маральна і псіхалагічна я быў гатовы даўно. На жаль, не зусім быў гатовы нават мой моцны арганізм, таму на чацьвёрты-пяты дзень воля толькі ўзмацнілася. Арганізм жа пачаў крышачку даваць збоі, я маю на ўвазе тыя самыя пакутныя дні, калі мяне пастаянна душылі спазмы і, на жаль, прыступы ішлі адзін за другім. Тым ня менш, нават у гэтай крытычнай сітуацыі ў мяне праблемы выбару таксама не было. Я катэгарычна адмаўляўся ад гэтак званай прымусовай медыцынскай дапамогі, якую мне прапаноўвалі сіламі медчасьці МУС. Гэта было абсалютна непрымальна... Але на самой справе рашэньні прымаліся на ўзроўні Лукашэнкі і Шэймана. Адсюль часам неадэкватныя і запозьненыя дзеяньні. Скажам, каб прыняць рашэньне аб гвалтоўным кармленьні, спатрэбіліся два дні, таму што ўжо ў сераду сьпецыялістам было зразумела, што я знаходжуся ў крытычным стане. І, верагодна, з прычыны таго, што ніхто ня мог прыняць рашэньне (гэта была прэрэгатыва Лукашэнкі і Шэймана), спатрэбіліся два дні, каб прыняць гэткае неадэкватнае рашэньне — вывесьці мяне гвалтоўна з галадоўкі з выкарыстаньнем АМАПаўцаў у чорных масках. У сувязі з гэтым, я думаю, што над людзьмі, якія прымалі рашэньні, пераважаў страх, жывёльная паніка... Зразумела, што наўрад ці іх непакоіў стан майго здароўя. Баяліся, што будзе ўцечка інфармацыі, жудасны скандал — што непазьбежна магло прывесьці да руйнаваньня асноваў гэтай улады».

*(Працяг на стар. 4-5)*

# Парушэньні правоў чалавека пад час арганізацыі і правядзеньня выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 16 траўня 1999 г.

*(Пачатак на стар. 1-3)*

11 сакавіка скончыўся тэрмін зьняволеньня старшыні легітымнага Цэнтрвыбаркаму па выбарах прэзідэнта РБ. В. Ганчара павінны былі вызваліць са сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку ў 14 гадзінаў. У гэты час каля сьпецпрыёмніку сабраліся прадстаўнікі прэсы, грамадзкасьці, актывісты дэмакратычных партыяў. Быў таксама і старшыня Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Сямён Шарэцкі. Але сустрэча В. Ганчара не адбылася. Высьветлілася, што яшчэ зранку В. Ганчар быў вывезены са сьпецпрыёмніку і дастаўлены ў ізалятар часовага ўтрыманьня, дзе яго дапрошваў сьледчы. Пасьля гэтага на службовай машыне В. Ганчара вывезьлі на Лагойскі тракт і выкінулі з машыны. Дахаты зьнясілены В.Ганчар мусіў дабірацца самастойна. Стала вядома, што В.Ганчар падвяргаўся катаваньням. Людзі ў чорнай вопратцы і масках, якія хавалі іх твары, зьбівалі В.Ганчара, яму заломвалі рукі і ногі назад — рабілі так званую «ластаўку». Пасьля катаваньняў і сухой галадоўкі здароўе В.Ганчара было ў вельмі кепскім стане. У ноч на 12 сакавіка да яго выклікалі «хуткую дапамогу». Супраць В. Ганчара былі выкарыстаныя катаваньні, што зьяўляецца парушэньнем міжнародных нормаў, а ў прыватнасьці, арт. 5 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, арт. 10 Міжнароднага пакту аб грамадзкіх і палітычных правах, а таксама Канвенцыі супраць катаваньняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных альбо прыніжаючых годнасьць чалавека відаў абыходжаньня і пакараньняў ад 10.12.1984 г.

Шырока разгорнутая кампанія па правядзеньні прызначаных легітымным Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га скліканьня на 16 траўня выбараў прэзідэнта краіны стала падставай для распачынаньня рэпрэсіяў супраць арганізатараў выбараў. Пасьля сканчэньня 10-дзённага арышту супраць старшыні Цэнтрвыбаркаму В. Ганчара была ўзбуджаная крымінальная справа па арт. 190 КК РБ («самавольнае прысваеньне званьня альбо ўлады службовай асобы»).

3 сакавіка сябра Цэнтральнай Выбарчай Камісіі Сяргей Абадоўскі, які адбываў адміністратыўны арышт у мінскім сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку, быў дастаўлены ў бальніцу «хуткай дапамогі» з дыягназам «востры гіпертанічны крыз» — вынік галадоўкі, якую ў знак пратэсту супраць незаконнага арышту С.Абадоўскі абвясьціў у зале суда. У бальніцы С.Абадоўскаму аказалі тэрміновую медыцынскую дапамогу, пасьля чаго адпусьцілі дадому.

## 5. Справа Яўгена Мурашкі

12 лютага супрацоўнікі гомельскай міліцыі пад кіраўніцтвам намесьніка начальніка абласнога УУС палкоўніка Салаўёва і начальніка Цэнтральнага РАУС падпалкоўніка Смолікава бяз санкцыі пракурора абшукалі офіс Беларускага Хельсінкскага Камітэту і канфіскавалі каля 14 тысячаў плакатаў-абвестак пра маючыя адбыцца 16 траўня выбары прэзідэнта краіны. З прысутных у гэты час у офісе старшыні гомельскай філіі БХК, старшыні абласной выбарчай камісіі Яўгена Мурашкі, магілёўца Анатоля Фёдарава і беспрацоўнага гамяльчаніна Л.Удовенкі былі ўзятыя пісьмовыя тлумачэньні аб паходжаньні плакатаў. Вобыск супрацоўнікі міліцыі патлумачылі пошукамі бомбы. Пацярпелыя ад дзеяньняў міліцыі падалі скаргу пракурору Цэнтральнага раёну г.Гомеля.

9 траўня ў г. Калінкавічы Гомельскай вобл. быў затрыманы старшыня абласной выбарчай камісіі Яўген Мурашка. У час агляду аўтамабіля супрацоўнікі міліцыі знайшлі бюлетэні і іншыя дакументы, якія маюць дачыненьне да правядзеньня прэзідэнцкіх выбараў (пратаколы абласной камісіі, а таксама раённых камісіяў па Жыткавіцкай, Калінкавіцкай, Петрыкаўскай, Ельскай, Нараўлянскай, Хойніцкай, Рэчыцкай раённых і гарадзкіх акругах). 10 траўня адбыўся суд, які вынес адносна Я.Мурашкі наступнае рашэньне: 10 сутак адміністратыўнага арышту.

За арганізацыю сустрэчы са старшынёй ЦВК В. Ганчаром супраць Я. Мурашкі была ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле 186-3 Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь ("арганізацыя альбо актыўны ўдзел у групавых дзеяньнях, якія парушаюць грамадзкі парадак"). Гэты артыкул прадугледжвае пакараньне ў выглядзе 3-х гадоў пазбаўленьня волі.

## 6. Выклікі сяброў камісіяў ў пракуратуру і міліцыю і запалохваньне за спробу захопу ўлады

*Паведамляе Віктар Навасад*: "Ужо ў пачатку сакавіка ўсіх сяброў Сьвіслацкай РВК сталі па чарзе выклікаць у раённую пракуратуру. Усіх пакаралі афіцыйнымі папярэджаньнямі. Калі я спытаў у памочніка пракурора, які нас "прымаў", хто нам вынес папярэджаньні, ён адказаў, што паперы на гэта прыйшлі з Мінску – на кожнага сябра РВК у двух асобніках. Адзін асобнік яны пакінуць сабе, а другі адашлюць у Мінск.

Усяго ў нашай выбарчай камісіі было дзесяць чалавек. Пасьля запалохваньняў засталося восем. Прыцягнуць да працы новых сяброў вельмі цяжка. Усе баяцца рэпрэсіяў з боку ўлады, баяцца страціць хоць якое працоўнае месца. Старшынёй Сьвіслацкай РВК зьяўляецца Віктар Трышчановіч. Яго запрасіў да сябе ў кабінет старшыня райвыканкаму Анатоль Кузьма. У кабінеце таксама былі начальнікі раённых КДБ і міліцыі. Пасьля беспадстаўных абвінавачваньняў А. Кузьма прапанаваў В. Трышчановічу зьехаць з раёну і не перашкаджаць працаваць і дадаў, што ён "касьцьмі ляжа, але ўсім сябрам камісіі горла перагрызе"...

А Кузьма выклікаў да сябе на размову і намесьніка старшыні РВК Анатоля Валюка, якога потым "запрасіў" да сябе сьледчы РАУС сп. Калач. Сьледчы пытаўся пра дзейнасьць камісіі, пра фінансаваньне выбараў, пра тое, дзе знаходзяцца пратаколы пасяджэньняў і г. д. Сакратару РВК Генадзю Радэцкаму завуч СШ №3, дзе ён працуе, сказаў ад імя дырэктара школы, што калі ён будзе працягваць дзейнасьць у РВК, звольняць яго з працы без папярэджаньняў. Бацьку сябра РВК Іосіфа Дмухоўскага выклікаў да сябе А. Кузьма і загадаў паўзьдзейнічаць на сына, а інакш ён звольніць яго з працы...

Падобныя прыклады можна доўжыць. Гэткі ўціск толькі здалёк можа паказацца нязначным. На справе ж, у правінцыі, дзе кіраўнік "вертыкалі" поўны гаспадар (па загадзе А. Кузьмы ні адзін з кіраўнікоў арганізацыяў не адважыцца ўзяць на працу нейкага "апазіцыянера"), усё гэта істотна".

*11 сакавіка* ў г. Белаазёрску (Бярозаўскі раён, Брэсцкая вобл.) супрацоўнікамі міліцыі быў затрыманы сябра Сялянскай партыі Канстанцін Вярцейка, які зьяўляўся сябрам ініцыятыўнай групы па вылучэньні М. Чыгіра на пасаду прэзідэнта РБ. Ён быў затрыманы падчас збору подпісаў, адвезены ў Бярозаўскую пракуратуру, дзе пракурор Курылевіч вынес яму папярэджаньне.

*12 сакавіка* пракурор Цэнтральнага раёну г.Гомеля Емельяненка вынес папярэджаньне Віктару Арцюху за тое, што ён удзельнічаў у пасяджэньні савету мясцовай рэгіянальнай арганізацыі Свабоднага Прафсаюзу Беларускага, на якім разглядалася пытаньне пра вылучэньне сяброў прафсаюзу ў склад раённай выбарчай камісіі.

На 12 сакавіка позвамі былі выкліканыя ў пракуратуру г.Гомеля да намесьніка пракурора В.Карпенюка сябры гомельскай гарадзкой выбарчай камісіі: І.Смагін, Г.Жук , М.Аксёнаў, А.Кацапава «для дачы тлумачэньняў».

*13 сакавіка* ў г.Наваполацку адбыўся пікет, прымеркаваны да Дня Канстытуцыі, арганізаваны сябрамі мясцовай Рады БНФ «Адраджэньне». Пікетоўшчыкі трымалі плакаты: «Маем права на выбары», «Беларусь — вольная краіна», «16 траўня — выбары прэзідэнта РБ».

*15 сакавіка* ў г. Белаазёрску (Бярозаўскі раён Брэсцкай вобл.) падчас збору подпісаў быў затрыманы старшыня мясцовай суполкі БНФ «Адраджэньне» Мікалай Суліма. Раённая пракуратура вынесла яму папярэджаньне.

*14 сакавіка* ў 18 гадзінаў на бульвары Непакораных у г. Магілёве быў затрыманы сябра Беларускага Народнага Фронту Юры Пчэльнікаў. Пры затрыманьні яго абшукалі. Затым ён быў дастаўлены ў РАУС Кастрычніцкага раёну г. Магілёва для высьвятленьня асобы, дзе ўтрымліваўся на працягу дзьвюх гадзінаў. У затрымана-

га былі канфіскаваныя друкаваныя матэрыялы, сярод якіх: падпісныя лісты за вылучэньне З.Пазьняка кандыдатам у прэзідэнты РБ; улёткі «Пазьняк прапанае Беларусі дарогу ў Эўропу»; улёткі з тэкстам аб Беларускай Народнай Рэспубліцы. Пратакол Ю. Пчэльнікаў адмовіўся падпісваць. Яго абвінавачвалі па частцы трэцяй арт. 172 КаАП РБ: «Распаўсюджваньне друкаваных выданьняў, вырабленых з парушэньнем устаноўленага парадку і не маючых выхадных дадзеных, зьмест якіх накіраваны на нанясеньне шкоды дзяржаўнаму і грамадзкаму парадку, правам і законным інтарэсам грамадзянаў».

*15 сакавіка* ў г. Наваполацку ў дзевяць гадзінаў вечару падчас збору подпісаў за кандыдата ў прэзідэнты З. Пазьняка былі затрыманыя сябры БНФ «Адраджэньне» Зьміцер Салаўёў і Алег Пашкевіч. Міліцыянты патрабавалі напісаць тлумачэньні іх дзеяньняў. На пытаньне З.Салаўёва і А. Пашкевіча, на якой падставе іх затрымалі, міліцыянты адказалі, што яны падобныя на злодзеяў, якія знаходзяцца ў вышуку.

*15 сакавіка* ў Баранавіцкую гарадзкую пракуратуру былі выкліканыя сябры гарадзкой камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Сярод іх: сябра БСДП (НГ) Баляслаў Болбат, сябры БНФ «Адраджэньне» Уладзімір Гоўша, Георгі Загорскі, Тамара Зьверава, Міхась Барысевіч і старшыня Баранавіцкай Рады БНФ «Адраджэньне» Мікалай Севярцоў. Намесьнік пракурора г. Баранавічы Квашнін вынес ім папярэджаньні аб магчымым прыцягненьні да крымінальнай адказнасьці ў выпадку далейшай дзейнасьці камісіі па выбарах прэзідэнта РБ.

*15 сакавіка* намесьнік пракурора Савецкага раёну г.Гомеля А. Прасьнякоў вынес афіцыйнае папярэджаньне сябру БНФ «Адраджэньне», сябру Цэнтральнай Гарадзкой Выбарчай Камісіі па выбарах Прэзідэнта РБ Анатолю Паплаўскаму. Спадару Паплаўскаму растлумачана, што «у выпадку, калі Вы будзеце працягваць свае дзеяньні, Вы можаце быць прыцягнутыя да ўсталяванай законам адказнасьці».

*15 сакавіка* сябра БНФ «Адраджэньне» Мікола Клімовіч быў выкліканы ў пракуратуру Кастрычніцкага раёну г. Мінска. Пракурор Жукавец правяла з ім гутарку, зьвязаную з працай раённай выбарчай камісіі, у якую ён уваходзіць. М.Клімовічу было прапанавана падпісаць пратакол допыту.

*11 сакавіка* ў г. Барысаве падчас збору подпісаў за вылучэньне Міхаіла Чыгіра кандыдатам у прэзідэнты РБ быў затрыманы і дастаўлены ў ГАУС 26-гадовы сацыял-дэмакрат Зьміцер Абрамовіч. На яго быў складзены пратакол аб адміністратыўным праваапарушэньні па арт. 167, ч.3 (парушэньне заканадаўства аб выбарах) КаАП РБ. На наступны дзень (12 сакавіка) зноў падчас збору подпісаў ён быў затрыманы міліцыянтамі на некалькі гадзінаў, але на гэты раз міліцыянты вырашылі за лепшае не складаць новы пратакол.17 сакавіка Зьміцер пры абыходзе кватэраў з мэтай збору подпісаў за М.Чыгіра быў затрыманы супрацоўнікамі КДБ. Начальнік Барысаўскага аддзелу УКДБ па Мінску і Мінскай вобласьці маёр Літвінчык С.М. вынес З.Абрамовічу афіцыйнае папярэджаньне «за дзейнасьць, якая можа выклікаць адказнасьць, прадугледжаную арт. 61, ч. 1 КК РБ ("змова з мэтай захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам»). Вышэйзгаданы артыкул Крымінальнага Кодэксу прадугледжвае адказнасьць у выглядзе пазбаўленьня волі на тэрмін ад васьмі да дванаццаці гадоў з канфіскацыяй маёмасьці ці без канфіскацыі. Нягледзячы на запалохваньне, Зьміцер Абрамовіч у той жа дзень працягнуў збор подпісаў.

*17 сакавіка* ў 17.00 у г.Баранавічы падчас збору подпісаў за кандыдата ў прэзідэнты РБ З. Пазьняка невядомымі ў цывільным быў затрыманы старшыня мясцовай Рады Маладога Фронту Алесь Пікула. Невядомыя не прад'явілі пасьведчаньняў супрацоўнікаў міліцыі, і таму Алесь аказаў супраціўленьне. Невядомыя зьбілі яго і сілай зацягнулі ў машыну, дзе пагражалі яму і праводзілі размову аб ягонай палітычнай дзейнасьці. Павазіўшы па горадзе, невядомыя выпусьцілі Алеся, ня склаўшы на яго ніякіх афіцыйных папераў. Алесь Пікула зьвярнуўся са скаргаю ў мясцовую пракуратуру. 25 сакавіка ён атрымаў адказ ад начальніка Баранавіцкага ГАУСу падпалкоўніка міліцыі С. Мостыка (копія адказу накіравана пракурору г.Баранавічы), дзе сказана: «...па факту звароту з заявай г-на Пікула А.В. аб узбуджэньні крымінальнай справы адмоўлена на падставе арт.5, п.2 КПК РБ ("адсутнасьць складу злачынства"). Пошук асобаў, з якімі адбыўся ў Вас канфлікт 17.03.99 г., працягваецца. Пры нязгодзе з прынятым рашэньнем Вы можаце абскардзіць дадзеную пастанову ў пракуратуры г.Баранавічы».

*18 сакавіка* ў судзе Цэнтральнага раёну г. Магілёва адбыўся суд над непаўналетнім сябрам мясцовай арганізацыі Малады Фронт Алесем Паўтарацкім, які напярэдадні быў затрыманы падчас збору подпісаў за кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь З. Пазьняка. Судзьдзя Сарока прыцягнула юнака да адміністратыўнай адказнасьці па арт. 167.3 КаАП РБ ("парушэньне заканадаўства аб выбарах") і наклала на яго штраф у памеры 250 тыс. рублёў. Судзьдзя адмовілася дапусьціць у якасьці грамадзкага абаронцы Валадара Цурпанава. Парушэньнем зьяўляецца ўжо само прыцягненьне Паўтарацкага да адміністратыўнай адказнасьці праз суд. Згодна з арт.13 і арт. 201 КаАП РБ, падобныя справы павінны разглядацца раённымі камісіямі па справах непаўналетніх.

*18 сакавіка* ў г.Дзятлава (Гродзенская вобл.) была выкліканая ў мясцовую пракуратуру сям'я Алейнікавых. Сярод выкліканых: Васіль Алейнікаў — старшыня мясцовай арганізацыі БНФ "Адраджэньне", Антаніна Алейнікава — старшыня мясцовай выбарчай камісіі, Андрэй Алейнікаў — сябра выбарчай камісіі, а таксама Уладзімір Рудзеў — сакратар мясцовай выбарчай камісіі. Усе яны атрымалі афіцыйнае папярэджаньне ад раённай пракуратуры.

*18 сакавіка* ў г. Мар'іна Горка (Мінская вобл.) прыкладна каля 19 гадзінаў вечара ў кватэры, дзе месьціцца Пухавіцкая раённая камісія па выбарах прэзідэнта РБ, адбыўся вобыск. Ён быў праведзены супрацоўнікамі міліцыі на чале з капітанам Нечуйвіцерам Л.Д. без прад'яўленьня санкцыі пракурора. У выніку вобыску была канфіскаваная друкаваная прадукцыя і асабістыя рэчы (два бел-чырвона-белыя сьцягі).

*На 18 сакавіка* ў пракуратуру Гомельскай вобласьці позваю быў выкліканы сябра выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ Уладзімір Шыцікаў. У позве ўказана, што ён павінен "даць тлумачэньні" пракурору Хіжанку. Такія ж тлумачэньні пракурору Хіжанку павінен быў даць В.Старчанка, які быў выкліканы позваю на 31 сакавіка. У гомельскую пракуратуру былі выкліканыя таксама і іншыя сябры выбарчых камісіяў гораду і вобласьці: В.Дамброўскі і А.Даўгала.

*19 сакавіка* ў г.Мар'іна Горка каля 21 гадзіны падчас збору подпісаў сябрам БНФ "Адраджэньне" быў затрыманы У.Жаўняк. Затрымлівалі яго асобы ў міліцэйскай форме, якія затым адвезьлі затрыманага ў пастарунак.

*19 сакавіка* ў г.Горкі (Магілёўская вобл.) падчас збору подпісаў за кандыдата ў прэзідэнты РБ З. Пазьняка быў затрыманы жыхар Мінска Беласкоў Віктар. Ён зьбіраў подпісы на тэрыторыі Горацкай акадэміі. Нарад міліцыі, які затрымаў Беласкова, паведаміў яму, што ён падазраецца ў зьдзяйсьненьні крымінальнага злачынства. Міліцыянты адвезьлі яго ў мясцовы РАУС. Там быў складзены пратакол затрыманьня, а таксама пратакол канфіскацыі 5 падпісных лістоў і 62 экзэмпляраў перадвыбарных улётак. Пасьля гэтага быў праведзены вобыск на кватэры, дзе жыве маці Беласкова, у выніку якога былі канфіскаваныя некалькі ўлётак і падпісных лістоў. Потым В.Беласкоў быў адвезены ў пракуратуру, дзе быў дапытаны пракурорам раёну ў прысутнасьці начальніка міліцыі і начальніка мясцовага адзьдзелу КДБ. Урэшце пракурор вынес Беласкову папярэджаньне аб магчымасьці прыцягненьня яго да крымінальнай адказнасьці па арт. 61.1 КК РБ ("змова з мэтай захопу дзяржаўнай улады"). Пры гэтым ніякіх афіцыйных папераў на рукі Беласкову не далі.

*19 сакавіка* каля 9.45 слонімскія міліцыянты наведаліся да актывіста БНФ «Адраджэньне» у вёсцы Селявічы (Слонімскі раён Гродзенскай вобл.) Генрыха Засімовіча, які займаўся ў вёсцы зборам подпісаў за кандыдата ў прэзідэнты РБ З. Пазьняка. Міліцыянтаў цікавіла, навошта ён зьбірае подпісы. Было зробленае папярэджаньне Г.Засімовічу. Міліцыянты пагражалі, што калі фронтавец «ня возьмецца за розум, то ім будзе займацца КДБ». Візіт прадстаўнікоў праваахоўчых органаў меў на мэце запалохаць ня толькі Г.Засімовіча, але і ўсіх вяскоўцаў, і гэта спрацавала: многія баяліся ставіць подпісы за З.Пазьняка.

19 сакавіка ў Мінску на вул. Надзеждзінская падчас збору подпісаў за кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі

*(Працяг на стар. 6-7)*

# Парушэньні правоў чалавека пад час арганізацыі і правядзеньня выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 16 траўня 1999 г.

*(Пачатак на стар. 1-5)*

З.Пазьняка былі затрыманыя пенсіянеры Я.Пячкова і М.Галаўнёў. Затрыманыя былі адведзеныя ў Ленінскі РАУС г.Мінска, дзе былі пратрыманыя на працягу трох гадзінаў у камеры. Са словаў затрыманых былі складзеныя тлумачальныя, а таксама пратакол канфіскацыі падпісных лістоў.

*19 сакавіка* ў Мінску падчас збору подпісаў за кандыдата ў прэзідэнты РБ М. Чыгіра былі затрыманыя Яўген Лабановіч і Аляксандр Юрын. Яны зьбіралі подпісы падчас правядзеньня санкцыянаванага пікету, наладжанага Свабодным Прафсаюзам Беларускім каля прахадной заводу імя Вавілава. На яшчэ адным пікеце СПБ, які праходзіў па вул. Жылуновіча, за збор подпісаў была затрыманая сп.Каралёва. Усе затрыманыя былі адвезеныя для складаньня пратаколаў у райаддзелы міліцыі.

*21 сакавіка* ў г.Брэсце на Уладзіміра Плячко, які зьбіраў подпісы за вылучэньне кандыдатам у прэзідэнты РБ З. Пазьняка, а 23 гадзіне каля будынку 13 па вул Крывашэіна напаў чалавек у камуфляжнай форме. Гэты «невядомы» выхапіў падпісны ліст, парваў, ударыў сталага чалавека ў твар. Сп. Плячко — сябра БНФ «Адраджэньне». Ён сьцьвярджае, што менавіта дзеля прыналежнасьці да БНФ быў звольнены з працы.

*21 сакавіка* ў г.Клічаў (Магілёўская вобл.) да старшыні раённай выбарчай камісіі Доўбіка М.і. на кватэру зьявіліся супрацоўнікі праваахоўных органаў і прапанавалі праехаць з імі для высьвятленьня некаторых пытаньняў. Праз некаторы час у кватэру Доўбіка прыбыў супрацоўнік міліцыі і запатрабаваў ад жонкі прадставіць пашпарт мужа, паведаміўшы пры гэтым, што ён абвінавачваецца ў парушэньні адміністратыўнага кодэксу. Толькі ў панядзелак (22 сакавіка) жонка М.Доўбіка даведалася, што яе муж быў прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасьці «за дробнае хуліганцтва» (быццам бы за нецэнзурную лаянку ў прысутнасьці супрацоўніка міліцыі) і пакараны 15-сутачным адміністратыўным арыштам.

*22 сакавіка* ў 19.30 на вуліцы Астроўскага ў г.Магілёве пры зборы подпісаў за вылучэньне З.Пазьняка кандыдатам у прэзідэнты РБ супрацоўнікам міліцыі быў затрыманы сябра БНФ Мікола Лабанаў. Ён быў дастаўлены ў РАУС Кастрычніцкага раёну г.Магілёва, дзе ўтрымліваўся да 12 гадзінаў ночы. Супрацоўнікі РАУСу адмовіліся паведаміць родным затрыманага аб ягоным месцазнаходжаньні. У М. Лабанава былі канфіскаваныя друкаваныя матэрыялы, сярод якіх падпісныя лісты, улёткі «Пазьняк пракладае дарогу ў Еўропу», улёткі з тэкстам аб БНР. У пратаколе аб адміністратыўным правапарушэньні, які затрыманы адмовіўся падпісаць, яму прад'яўлялася абвінавачваньне ў парушэньні арт.173, ч.3 КаАП РБ.

*22 сакавіка* старшыня Мсьціслаўскай раённай камісіі (Магілёўская вобл.) па выбарах прэзідэнта РБ Іван Казарэз быў выкліканы ў пракуратуру, дзе яму вынесьлі папярэджаньне за ўдзел у працы выбарчай камісіі. Казарэз быў папярэджаны аб крымінальнай адказнасьці па арт 61.1 КК РБ, які прадугледжвае да 12 гадоў пазбаўленьня волі.

*22 сакавіка* сябра Клічаўскай раённай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ Васіль Альшэўскі быў асуджаны да 15 сутак адміністратыўнага арышту. Ён быў дастаўлены ў Клічаўскі РАУС нібыта для разьбіральніцтва, пасьля чаго на яго склалі пратакол і даставілі ў суд.

*23 сакавіка* сяброў Клімавіцкай (Магілёўская вобл.) раённай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ выклікалі ў пракуратуру. Пракурор Катляр А. вынес усім папярэджаньне.

*23 сакавіка* жыхарка г.Бяроза (Брэсцкая вобл.) Аліхвер Тацяна Міхайлаўна, пенсіянерка, якая працуе па кантракце ў сацыяльнай сферы, сябра раённай выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ, атрымала на працы папярэджаньне: калі яна ня выйдзе з выбарчай камісіі, то будзе звольненая.

*23 сакавіка* сябра раённай выбарчай камісіі Цэнтральнага раёну г.Мінска, сябра Саюзу мастакоў Беларусі А.Шатэрнік быў выкліканы ў раённае УКДБ РБ па Мінску і Мінскай вобласьці да ст. лэйтэнанта Тартакоўскага Г.Ю., дзе яму было вынесенае папярэджаньне. Яму было ўказана на «недапушчальнасьць незаконных дзеяньняў і растлумачана, што падобныя ўчынкі з ягонага боку ў далейшым, калі ён ня зробіць патрэбных высноваў, могуць прывесьці да злачынства і пацягнуць за сабою крымінальную адказнасьць».

*24 сакавіка* ў пракуратуру Кастрычніцкага раёну г. Мінска быў выкліканы сябра БНФ «Адраджэньне» і раённай выбарчай камісіі Юрась Пальчэўскі. Пракурор намагаўся прыцягнуць Ю. Пальчэўскага да адміністратыўнай адказнасьці па арт. 167.3 КаАП Рэспублікі Беларусь. Пры размове прысутнічаў палкоўнік КДБ, якога цікавіла пытаньне фінансаваньня выбарчай камісіі. Пракурор вынес Юрасю Пальчэўскаму папярэджаньне аб магчымым прыцягненьні яго да крымінальнай адказнасьці.

*24 сакавіка* да намесьніка пракурора Ленінскага раёну г.Мінска Сокала С.С. былі выкліканыя ўсе сябры раённай выбарчай камісіі, якую ўзначальвае А.Жоўнер. Былі складзеныя пратаколы афіцыйных папярэджаньняў за «супрацьзаконныя дзеяньні» на сямярых з дванаццаці сяброў камісіі. Паперы з папярэджаньнямі не былі выдадзеныя.

*25 сакавіка* каля 6.00 на аўтавакзале г.Магілёва супрацоўнікамі міліцыі ў цывільным быў затрыманы старшыня Магілёўскай філіі БСДП «Народная Грамада» Алесь Сердзюкоў. Ён быў дастаўлены ў РАУС Ленінскага раёну г.Магілёва для дагляду, дзе ўтрымліваўся прыкладна да 11 гадзінаў. Супрацоўнікі РАУСу патлумачылі прычыну затрыманьня тым, што яны нібыта атрымалі інфармацыю пра тое, што ў А.Сердзюкова ў торбе знаходзіцца гераін. Пры вобыску ў А.Сердзюкова былі знойдзеныя толькі падпісныя лісты за вылучэньне М.Чыгіра кандыдатам ў прэзідэнты РБ з 1000 сабраных подпісаў, якія былі канфіскаваныя. Таксама былі канфіскаваныя нататкі асабістага характару і сам нататнік. Згодна са складзеным міліцыянтамі пратаколам, які А.Сердзюкоў адмовіўся падпісваць, ён парушыў арт. 167, ч.3 КаАП РБ. Разгляд справы павінен быў адбыцца 31.03.99 г. у адміністратыўнай камісіі Ленінскага райвыканкаму г.Магілёва.

*На 25 сакавіка* атрымалі позвы ў Ленінскую пракуратуру г.Брэста сябры раённай выбарчай камісіі Н.Аганесян, У.Вялічкін, М.Лукашук, Р.Пронька. Праводзіў «размовы» з выкліканымі пракурор В. Масюк. Як высьветлілася, брэсцкі гарвыканкам, атрымаўшы сьпісы сяброў камісіяў па выбарах, перадаў іх у пракуратуру, і менавіта таму шэраг сяброў выбаркамаў знайшлі ў сваіх паштовых скрынях позвы.

*25 сакавіка* сябра Полацкай гарадзкой камісіі па выбарах прэзідэнта РБ Мікола Ермалаеў быў выкліканы ў пракуратуру г.Полацка, дзе яму вынесьлі папярэджаньне аб адміністратыўнай адказнасьці, прадугледжанай арт. 167.3 КаАП РБ ("парушэньне заканадаўства аб выбарах") за подпісам пракурора г.Полацка, старэйшага дарадцы юстыцыі А. Кучарэнкі.

*25 сакавіка* Іван Януковіч атрымаў павестку ў пракуратуру Полацкага раёну, дзе яму, як намесьніку Полацкай раённай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ, вынесьлі папярэджаньне аб адміністратыўнай адказнасьці, прадугледжанай арт. 167.3 КаАП РБ ("парушэньне заканадаўства аб выбарах"), за подпісам пракурора Полацкага раёну, старэйшага дарадцы юстыцыі Н. Нікуленкі.

*25 сакавіка* сябра Полацкай гарадзкой камісіі па выбарах прэзідэнта РБ Баўтовіч Міхаіл быў выкліканы ў Полацкую гарадзкую пракуратуру, дзе сьледчым Аўсюком А. было выпіснае афіцыйнае папярэджаньне за ўдзел у працы камісіі.

*25 сакавіка* сябра Полацкай гарадзкой камісіі па выбарах прэзідэнта РБ Стукаў Віктар быў выкліканы ў пракуратуру і атрымаў афіцыйнае папярэджаньне ў сувязі з працай у камісіі. В.Стукаў разглядае гэты выпадак як парушэньне сваіх правоў.

*25 сакавіка* актывіст наваполацкай філіі ПЦ «Вясна-96» Салаўёў Зьміцер быў выкліканы да рэктара Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэту, асьпірантам

якога З.Салаўёў зьяўляецца. Рэктар папярэдзіў яго аб магчымым выключэньні з асьпірантуры за актыўную палітычную дзейнасьць і працу па падрыхтоўцы выбараў прэзідэнта РБ, прызначаных на 16.05.99 г.

*25 сакавіка* ў г.Мар'іна Горка (Мінская вобл.) М.Усьціненка быў выкліканы да супрацоўніка Пухавіцкага раённага аддзяленьня УКДБ па Мінскай вобл. падпалкоўніка В.Рыпіка. Падпалкоўнік папярэдзіў сябра раённай выбарчай камісіі, што ягоная дзейнасьць «супярэчыць дзеючаму заканадаўству» і можа пацягнуць за сабою адказнасьць па арт. 61.1 ("змова з мэтаю захопу ўлады неканстытуцыйным шляхам"), які знаходзіцца пад кантролем КДБ. Пратакол абвяшчэньня афіцыйнага папярэджаньня М.Усьціненка падпісаць адмовіўся.

*25 сакавіка* ўчастковы інсьпектар Першамайскага раёну г.Мінска Грышчанка І. у прысутнасьці сьведкаў склаў пратакол аб канфіскацыі ў спадарыні Каляды Ніны Фёдараўны, 1930 г.н., падпісных лістоў па вылучэньні кандыдата ў прэзідэнты РБ.

*25 сакавіка* Ляпарская Ларыса Віктараўна была выкліканая ў пракуратуру Савецкага раёну г.Мінска да памочніка пракурора сп-ні Г. Грынь. У кабінеце акрамя сп-ні Грынь быў яшчэ адзін чалавек, які не назваў сябе. Удвух яны дапытвалі жанчыну, якім чынам яна трапіла ў раённую выбарчую камісію, што там робіць, і колькі за гэта атрымлівае. Затым Л.Ляпарскай было прапанавана прачытаць арт. 167.3 КаАП і не парушаць яго, запісаць гэта на пратаколе допыту, што жанчына і зрабіла. Аналагічна адбывалася размова сп-ні Грынь Г. з Івановічам Рыгорам і Макавым Аляксандрам, якія былі выкліканыя ў пракуратуру ў той жа дзень — 25 сакавіка.

*27 сакавіка* ў Магілёве каля 14.00 падвергліся разбойнаму нападу сябры тэрытарыяльных камісіяў па выбарах прэзідэнта РБ. Гэта здарылася падчас сустрэчы старшыні Магілёўскага аблвыбаркаму У.Шарапава з прадстаўнікамі рэгіянальных выбаркамаў, якая адбывалася на прыватнай кватэры. Дом, у якім знаходзілася гэтая кватэра, быў ачэплены міліцыяй, пасьля чаго асобы ў цывільным і ў форме АМАПу (усяго 15 чалавек) уварваліся ў кватэру. Дзеяньнямі гэтых асобаў кіраваў загадчык крымінальнага вышуку УУС Магілёўскага аблвыканкаму падпалкоўнік Карпаў і сьледчы ст. лейтэнант Сенакосаў. Без тлумачэньняў і прад'яўленьня дакументаў, ня маючы адпаведных санкцыяў, яны правялі асабісты дагляд прысутных і вобыск кватэры. Падчас вобыску, які цягнуўся 5 гадзінаў, гаспадарам не дазволілі карыстацца тэлефоннай сувязьзю і правадзілі відэазапіс. У выніку былі канфіскаваныя копіі запоўненых падпісных лістоў за вылучэньне кандыдатаў у прэзідэнты РБ (258 ас.), асобнік Закону аб выбарах прэзідэнта РБ, іншыя дакументы тэрытарыяльных выбарчых камісіяў, а таксама іхнія пячаткі, пасьведчаньні асобаў, што прысутнічалі ў кватэры. Панятыя былі выкліканыя толькі для падпісаньня пратаколу аб канфіскацыі.

Радкі з ліста: «Завуць мяне Сяржук Іваньнікаў, мне 26 гадоў, зьяўляюся студэнтам чацьвёртага курсу факультэту журналістыкі (завочнае аддзяленьне) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту. Зьяўляюся таксама сябрам Барысаўскай гарадзкой камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. 29 сакавіка 1999 г. да мяне ў хату зайшоў участковы міліцыянер Генадзь Несьцяровіч і прынёс позву ў міліцыю за подпісам начальніка аддзяленьня грамадзкай бясьпекі і правапарадку маёра Анатоля Кургана, у якой было напісана, што 31 сакавіка я павінен зьявіцца ў Барысаўскі гарадзкі аддзел унутраных справаў у кабінет №35 да намесьніка начальніка Барысаўскага ГАУС падпалкоўніка Фёдара Падабеда. Мяне выклікалі ў міліцыю за тое, што я зьяўляюся сябрам гарадзкой камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Але 31 сакавіка ў міліцыю я не зьявіўся, таму што лічу гэты акт з боку міліцыі беспадстаўным. Я дзейнічаю ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй 1994 г.»

*У позве*, якую атрымаў удзельнік выбарчай кампаніі А.Каралёў з Жодзіна, пералічаныя наступствы няяўкі ў міліцыю: «Злоснае ўхіленьне сьведкі альбо пацярпелага ад яўкі ў ворган дазнаньня прадугледжвае адміністратыўнае ўзьдзеяньне ў адпаведнасьці з арт.166(2) Кодэксу Рэспублікі Беларусь аб адміністратыўных правапарушэньнях. Адмова сьведкі альбо пацярпелага ад дачы паказаньняў прадугледжвае адказнасьць па арт.178 Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь".

*30 сакавіка* Капуцкі Аляксандр «за фармаваньне незаконных выбарчых камісіяў у г.Маладэчна і раёне» быў выкліканы ў Маладэчанскі ГА УКДБ па Мінску і Мінскай вобласьці да памочніка начальніка гэтай установы Гладкага Б. Яму вынесенае афіцыйнае папярэджаньне, у якім сказана, што «падобныя ўчынкі з яго боку могуць... пацягнуць за сабой крымінальную адказнасьць».

*29 сакавіка* ў Мастоўскую пракуратуру (Гродзенская вобл.) былі выкліканыя ўсе сябры раённай выбарчай камісіі. З сяброў камісіі былі ўзятыя тлумачэньні і вынесеныя папярэджаньні.

*29 сакавіка* пракуратура Полацкага раёну вынесла папярэджаньне сябру выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ Савасьціёнку Андрэю. У сваёй заяве, накіраванай у ПЦ «Вясна-96», А.Савасьціёнак піша: «Зьвяртаю вашу ўвагу, што на дакуменце няма рэгістрацыйнага нумару. Як паведаміла мне намесьнік пракурора Л.Заенка, гэты дакумент у пракуратуры не зарэгістраваны. Л.Заенка адмовілася даць інфармацыю, хто зьяўляецца ініцыятарам праверкі пракуратурай выкананьня заканадаўства аб выбарах».

*29 сакавіка* сябра Полацкай гарадзкой камісіі Шарахана Мікалая выклікалі ў пракуратуру г.Полацка, дзе ён атрымаў афіцыйнае папярэджаньне за ўдзел у працы камісіі за подпісам старэйшага дарадцы юстыцыі, пракурора г.Полацка А. Кучарэнкі.

На працягу сакавіка неаднарозова выклікаўся ў пракуратуру Бурдыка Павел — старшыня камісіі па выбарах прэзідэнта РБ па Полацкаму раёну Віцебскай вобласьці.

*1 красавіка* сябры Верхнядзьвінскай раённай выбарчай камісіі Мароз А. і Высоцкі В. былі выкліканыя ў аддзел крымінальнага вышуку. Ніякіх абвінавачваньняў прадстаўлена не было, браліся тлумачэньні наконт дзейнасьці камісіі.

*12 і 16 красавіка* сябры раённай выбарчай камісіі Шаркаўшчынскага раёну Віцебскай вобласьці Батвіненка Мікалай і Стрэленка Аляксандр атрымалі афіцыйныя папярэджаньні ў пракуратуры Шаркаўшчынскага раёну. Сяброў камісіі афіцыйна папярэдзілі пра «недапушчальнасьць ажыцьцяўляемай дзейнасьці па арганізацыі выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». «У выпадку невыкананьня патрабаваньняў, выказаных у афіцыйным папярэджаньні, Вы можаце быць прыцягнутыя да адміністратыўнай альбо крымінальнай адказнасьці», — сказана ў афіцыйным папярэджаньні, якое падпісаў пракурор Шаркаўшчынскага раёну Г.Карніенка.

## 7. Арышты сяброў камісіяў і канфіскацыя бюлетэняў па выбарах

*5 траўня* ў раёне плошчы Свабоды быў затрыманы асобамі ў цывільным Уладзімір Барадач (былы кіраўнік сьпецназу пры Міністэрстве абароны), даверaная асоба кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра. Непадалёку ад будынку французскай амбасады супрацоўнік ДАІ спыніў «Мерсэдэс» У.Барадача. Пасьля гэтага зьявіліся людзі ў цывільным, якія прадэманстравалі пасьведчаньні супрацоўнікаў КДБ і даставілі У.Барадача ў Цэнтральны РАУС г.Мінска, дзе ён знаходзіўся амаль 5 гадзінаў. Супрацоўнікі РАУС і КДБ правялі вобыск у машыне У.Барадача і канфіскавалі 4.000 улётак «Свабоду Чыгіру». У.Барадач адмовіўся падпісваць складзены на яго пратакол, пасьля чаго быў адпушчаны на свабоду.

*7 траўня* на выезьдзе з г.Мінска нарад ДАІ затрымаў машыну намесьніка старшыні Гомельскай абласной камісіі Віктара Яфімава, у якога канфіскавалі 25 тысячаў бюлетэняў.

*7 траўня* раніцай у Бабруйску падчас распаўсюджваньня плакатаў, якія інфармавалі насельніцтва аб правядзеньні 16 траўня выбараў прэзідэнта, былі затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі старшыня выбарчай камісіі па Ленінскім раёне Ігар Хадзько і актывіст выбарчай кампаніі Алесь Чыгір. Яны былі дастаўленыя ў Ленінскі РАУС, дзе былі складзеныя тлумачальныя і пратаколы аб канфіскацыі плакатаў і ўлётак.

*7 траўня* праведзены вобыск на кватэрах сяброў Глускай раённай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ — старшыні камісіі Ігара Кірына, намесьніка старшыні камісіі Яўгена Фалецкага і Генадзя Янушэўскага. Вобыск

*(Працяг на стар. 8-9)*

# Парушэньні правоў чалавека пад час арганізацыі і правядзеньня выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 16 траўня 1999 г.

*(Пачатак на стар. 1-7)*

праводзіўся групай супрацоўнікаў Глускага РАУСу пад кіраўніцтвам лейтэнанта Кузьмянкова на падставе пастановы пракурора Глускага раёну Ігара Савасьцева з мэтай канфіскацыі дакументаў, якія маюць дачыненьне да выбараў прэзідэнта РБ. Падчас вобыску ў кватэры Ігара Кірына былі канфіскаваныя: пастанова Цэнтральнай Выбарчай Камісіі №192 аб арганізацыі выбараў, бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» («Права на волю», №5) з інфармацыяй пра рэпрэсіі супраць тэрытарыяльных выбарчых камісіяў. Пры правядзеньні вобыскаў у Яўгена Фалецкага і Генадзя Янушэўскага не было знойдзена дакументаў, якія б мелі адносіны да выбараў.

*8 траўня* быў праведзены вобыск у кватэры Ларысы Дз'якавай — сакратара Глускай раённай выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ. Вобыск праводзіла група супрацоўнікаў Глускага РАУС на падставе пастановы пракурора Глускага раёну Ігара Савасьцева з мэтай выкрыцьця і канфіскацыі дакументаў, зьвязаных з правядзеньнем выбараў прэзідэнта РБ. Падчас вобыску канфіскаваныя наступныя дакументы: рэзалюцыя Еўрапейскага парламенту аб сітуацыі ў Беларусі, інструкцыя па запаўненьні падпісных лістоў, інфармацыйнае паведамленьне пра ўтварэньне Глускай раённай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ. Дадзены вобыск быў шостым па ліку, праведзеным супрацоўнікамі праваахоўчых органаў у сяброў Глускай раённай выбарчай камісіі.

*8 траўня* ў г.Магілёве былі затрыманыя некалькі сяброў участковых камісіяў па выбарах прэзідэнта РБ, сярод якіх — Ігар Стукалаў, які атрымаў матэрыялы для правядзеньня выбараў. І.Стукалаў быў затрыманы пры выхадзе з будынку, у якім месьціцца Магілёўская абласная выбарчая камісія. За спробу вярнуцца ў памяшканьне аблвыбаркаму ён быў абвінавачаны ў «непадпарадкаваньні законным патрабаваньням міліцыі» (арт.166 КаАП РБ). І.Стукалаў утрымліваўся ў РАУС Цэнтральнага раёну г.Магілёва да суда. Суд адбыўся 10 траўня. І.Стукалаў быў асуджаны да трох сутак адміністратыўнага арышту. Усе матэрыялы і дакументы, якія мелі дачыненьне да выбараў, канфіскаваныя.

*8 траўня* каля 18.00 на вул Ленінскай г. Магілёва нарадам міліцыі ў колькасьці 10 чалавек на чале з лейтэнантам Куляшовым быў затрыманы аўтамабіль, у якім знаходзіліся сябры тэрытарыяльных камісіяў па выбарах прэзідэнта РБ г.Крычава і г.Чэрыкава Сяргей Баравікоў, Тацяна Данілава, Сяргей Няроўны, Генадзь Раўкоў. Зрабіўшы догляд багажу, супрацоўнікі міліцыі даставілі затрыманых у РАУС Цэнтральнага раёну г. Магілёва. У РАУС быў праведзены вобыск, канфіскаваныя 13.000 асобнікаў дакументаў. Усе сябры камісіяў утрымліваліся ў РАУС больш 3 гадзінаў, ім недазволена было патэлефанаваць родным.

*8 траўня* на аўтавакзале г.Магілёва нарадам міліцыі пад кіраўніцтвам капітана Уладзіміра Кісялёва былі затрыманыя сябры тэрытарыяльных камісіяў г.Бабруйска па выбарах прэзідэнта РБ Анжэла Бакач, Міхась Вярбоўскі, Ігар Хадзько. Усе матэрыялы былі канфіскаваныя (15.000 асобнікаў), а з затрыманых былі ўзятыя тлумачэньні. Сяброў камісіяў пратрымалі ў РАУСе каля трох гадзінаў і не дазвалялі тэлефанаваць.

*9 траўня* ў 13.30 нарадам міліцыі і ўзброенымі байцамі АМАПу (у колькасьці 15 чалавек) было блакаванае памяшканьне, у якім месьціцца Магілёўская абласная камісія па выбарах прэзідэнта РБ. Супрацоўнікі міліцыі зрабілі вобыск, падчас якога былі канфіскаваныя ўсе матэрыялы, якія тычацца выбараў прэзідэнта РБ (бюлетэні для галасаваньня, пасьведчаньні, запрашэньні, бланкі пратаколаў) — усяго каля 1.400 асобнікаў, пра што быў складзены адпаведны пратакол.

*9 траўня* на аўтавакзале г.Магілёва старэйшым інсьпектарам крымінальнага вышуку УУС Магілёўскага аблвыканкаму Іванам Галалобавым, ст. інсьпектарам аховы грамадзскага правапарадку Валерыем Усьпенскім, ст. інсьпектарам аддзелу дазнаньня Ленінскага РАУС ст. лейтэнантам Яўгенам Бурынскім і сяржантам міліцыі Мікалаем Валадзенкам былі затрыманыя сябры тэрытарыяльных камісіяў па выбарах прэзідэнта РБ Анатоль Фёдараў (намесьнік старшыні Магілёўскай абласной камісіі) і Дзьячкоў Алег. Супрацоўнікамі міліцыі былі канфіскаваныя ўсе матэрыялы, якія мелі дачыненьне да выбараў. Затрыманьне доўжылася каля трох гадзінаў. Суд над А.Фёдаравым быў прызначаны на 11 траўня. На суд, аднак, А.Фёдараў не зьявіўся. Ён накіраваў у суд заяву, у якой прасіў перанесьці судовае пасяджэньне ў сувязі з хваробай. Менавіта праз гэтую заяву, на думку судзьдзі, выявілася непавага да суда. 12 траўня ў 12.00 А.Фёдараў быў затрыманы і дастаўлены ў суд Ленінскага раёну г.Магілёва, дзе быў асуджаны на 3 сутак адміністратыўнага арышту за непавагу да суда.

*10 траўня* ў 19.00 у г.Драгічын Брэсцкай вобл. былі затрыманыя і дастаўленыя ў РАУС сябры камісіі па выбарах прэзідэнта РБ Канстанцін Мысьлівец (разам з дзесяцігадовай дачкой) і Васіль Пракопчык. У сяброў камісіі былі канфіскаваныя 160 бюлетэняў для галасаваньня. Пасьля складаньня акту і пратаколу сябры камісіі былі адпушчаныя пры ўмове, што зьявяцца ў РАУС 11.05.99 г. у 8.00.

*10 траўня* на Цэнтральнай плошчы г.Лунінца Брэсцкай вобл. падчас размовы з моладзьдзю ўзброенай групай супрацоўнікаў міліцыі былі захопленыя сябры раённай выбарчай камісіі Зосіч Пётр і Гнядзько Валеры. У сяброў камісіі канфіскавалі выбарчыя бюлетэні і пячатку, а таксама абвінавацілі па арт. 167 КаАП ("парушэньне закону аб мітынгах і шэсьцях"). 11 траўня адбыўся суд, які вынес наступнае рашэньне: Зосічу Пятру — 10 сутак адміністратыўнага арышту, Гнядзько Валерыю — штраф у памеры 1 млн. рублёў.

*10 траўня* група супрацоўнікаў міліцыі ў форме і асобы ў цывільным правялі вобыск у прыватнай друкарні «Палімарк». Супрацоўнікам друкарні паведамілі, што была атрыманая інфармацыя пра тое, што ў памяшканьні закладзеная бомба. Вобыск цягнуўся дзьве гадзіны, пры гэтым супрацоўнікаў міліцыі больш цікавілі друкаваныя матэрыялы, а не выбуховае прыстасаваньне. Гэты вобыск зьвязаны з загадам, які быў дадзены ўсім супрацоўнікам КДБ і міліцыі, шукаць і канфіскоўваць любыя матэрыялы, што маюць дачыненьне да выбараў прэзідэнта РБ, прызначаных на 16 траўня.

## 8. Папярэджаньні Дзяржкамдруку газетам «Народная воля», "Навіны" «БДГ», «Имя», «Пагоня», «Згода» за друкаваньне інфармацыі аб выбарах

*У лютым 1999 году* Дзяржкамітэт па друку вынес папярэджаньні незалежным газетам, якія надрукавалі матэрыялы пра правядзеньне ў Беларусі чарговых прэзідэнцкіх выбараў, прызначаных Вярхоўным Саветам 13-га скліканьня на 16 траўня 1999 г. У папярэджаньнях сказана, што публікацыі «неіснуючага дзяржоргана па пытаньнях арганізацыі выбараў прэзідэнта» парушае закон аб друку ў частцы «закліку да захопу ўлады». У аддзеле рэгістрацыі Дзяржкамітэту зазначылі, што калі рэдакцыі ня спыняць асьвятленьня выбарчай кампаніі, то Дзяржкамітэт можа прыпыніць выхад газетаў нават без разьбіральніцтва ў судзе.

*13 мая* адбылося пасяджэньне Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь. На ім разглядаліся іскі незалежных дэмакратычных газетаў краіны да Дзяржкамітэту па друку, у якіх газеты аспрэчвалі юрыдычнае абгрунтаваньне вынесеных ім папярэджаньняў. На судовы працэс прадстаўнікі газетаў не змаглі зьявіцца і хадайнічалі аб пераносе справы. Суд не задаволіў хадайніцтва і пачаў судовы працэс без прадстаўнікоў газетаў. Пры гэтым старшыня Вышэйшага Гаспадарчага Суда спадар Бойка нагадаў журналістам, якія прысутнічалі ў зале, пра прынцып роўнасьці і спаборнасьці бакоў. Падчас судовага працэсу старшыня суда спадар Бойка не прывёў ніводнага заключэньня эксьпертызы, хаця газеты абвінавачваліся Дзяржкамдрукам у закліку да захопу ўлады. Менавіта так ацаніў Падгайны, а ў сваім рашэньні і судзьдзя Бойка, паведамленьне газетаў пра правядзеньне прэзідэнцкіх выбараў. Такім чынам суд